# Зіма.

*Шансунаму Науму Сапранкову.*

I.

Замятуха над-вечыр закруціла у ва усе бакі.

У пунях на разныя галасы скігіталі надворныя свінні. То тая, то другая карова жалобна мічала, трасучыся лахматаю хрыбцінаю ад стужы над аржаною саломаю.

Была пара давацъ скоту у другі і паіць копі. На двара змрочыло.

У Петраковай хаці, сброзь запушаныя сьнегам шыбы, троху святлело.

Пятрок, седзючы у жупане, даплетау лапаць і сварыуся; а жонка яго васьцістымі і худымі, цьмяпымі нібы ад загару, рукамі мешала у цэбры мяківу. Маладуха-нявехна, белая, белая, што-папера,—прала на услоні кудзелю і маучала, як немая, ці якая пакутніца.

Белавалосая дзяучынка стаяла лі полу і хлабасьцінаю адганяла кур ад кормнаго вапрука, што чаукау с карыта, раскідаючы па зямле цесто кола сябе.

На палу, у запечку, хлопчык у штоніках па матузках цераз плечы, і пузатая дзяучынка на крывых, выгнутых дугою ножках гулялі у лялькі і то лашчыліся, то сварыліся, заціхаючы, калі дзед Пятрок пачынау гаманіць дужэй.

— Картэунікі! Паабедаць пекалі прыйці з гульні, а коні паіць і ні думаюць. Ну, хлопчыкі!—злосна вурчэу дзед.

— Ці ім клопат аб чым? Тыя, што пойдуць па Калядах да войска, гуляюць перад няволяю, ахвоту спаганяюць. Ну, й наш з імі. Пашоу ба ты, стары, пагразіуся на яго, ці што; яму ж ні йці шчэ, хваліць Бога,—казала старая.

— А кы-шш! Мам, зірні-тка ты, усе куры с падпечча вылезлі.

— Мая лялька! Мая лялька!

— Ай, каб ты здох!

— Ня бі-ся!

— Хру, хру, хру... Чу-чух, чух!..

— Куд-куд-ку-дак!

— Ціху!! Лурзатыя, вапра упудзіце. Трасца таму вучыцелю, як ен вас да школы ні узяу: хоць ба троху спакой быу. «Позпа прывялі...» Да настауніц бегаць табе ні позпа, хоць ба сброзь ноч. А ты, Варка, хлабасьцінаю ні махай: пятух вакно высадзіць. Узляцеу куды, пракляты...

— А кыш, кыш!

— Стой, стой, дзеткі, ні гані!—схапілася маладзіца.

— Брак!

— А Божачка Ты мой, міласлівы.—захныкала старая:—ізноу разбілі міску, новую міску. Ніхай ба вы сабе галовачкі пабілі! І ты ж тут, матуля, сядзіш, нічога ні відзіш. Ці напрадзеш ты сабе кашулечку на тэй сьвет, ці не? Ай, дауно я тры капейкі аддала за міску, каб вы свае здароўко аддалі.

— Чух, чух! Хру-хру...

— А, мамачка, ні буду! А, родная, ні буду. А больна, больнінька,—галасіла дзяучынка пад біцем маткі.

— Ганіце вы хоць вапра, ці што. А-а, Госпадзі, за што караіш?—бедавау дзед.

У расчыненыя дзьверы ляцелі белыя халодныя комы марозу. Мауклівая маладуха, сьцяушы зубы, клала і клала рубяжы матузамі на худэрлявінькай дзіцячай сьпінцы. Вапрук чухау і йшоу і ні йшоу с хаты у цемныя сенцы. Старая падбірала чарапкі і кляла. Стрыкацінькая курачка скокнула з лаукі на край паліцы, і адтуль пасыпаліся на суднік Пархвенавы соннікі і аракулы. Пятух дзюбау, што раскідау вапер, і уже без клопату сакатау і кокау, ні зважаючы на дзяучыну, што пішчэла пад лаваю. Меньшыя дзеці забіліся за комін і прытуліліся, пакуль улашчыцца матка, да якой належыла улада караць іх па загаду законадауцау: дзеда, а найгорш—бабы, і пакуль зачыняюць дзьверы ды усе спіхамірыцца.

— А як прыдзіць татка са свету, дык я яму скажу, што ты майго коніка пабіла,—во, а што?- шэптау хлопчык.

— А я скажу яму, што ты на бабу плевау, во, а што?—ні здавалася сястрычка, з апаскай пазіраючы на хату у бок маткі.

II.

— Звонкі козыры,—здау Паулюк карты і абцер пот са лба.

— Пад тваю цемную,—сухім голасам сказау Валента Івану, зірнуушы на яго шпаркім цішком, і забарабаніу кінцямі па стальніцы, каб ні так заувважылі, што рукі яго тыхаюць. На гэты раз да яго прыйшла добрая карта па доугай нізадачы, і яго пачынало трусіць усяго.

Іван крыва усьміхнууся, распасьцер у рукэ карты і нібы захінуушыся ад тых, што пільнавалі гульню з-за яго плеч, стоючы атзадзі за услонам, дужа важна глядзеу у карты, цмокаючы ад думы языком.

Усе аб ім ніцярпліва думалі, што за ход ен размеркуіць і ці борда пойдзіць, хаця усякі сабе ведау, што Іван маучыць толькі так, ад абурэння. А у ваччу яго мітусіліся чырвенькі і званенкі, і ен адно думау, што карта ні натта добрая, і ен цяпера-шыка праіграіць. І што ж такое? Чаму быць, таму ні мінаць, толькі дрэнна неяк пачуваіцца.

— Ну, думай ты,—ні трывалося Пархвену Петрачонку, —коні паіць пара,—казау ен, скрабаючы за каупяром. Яму было усе роуна: ен сяння ні выйграу, ні праіграу.

Усе былі у жупанах, апрач самога Паулюка, як хадзяіна хаты, а гульня ішла сброзь увесь дзень, зрання. Курцы смалілі махорку і цыкалі слінай на-сярод хаты. На кону ляжало капеяк пяць медзі.

— Лянь, лянь! Зірні-тка, што на табе паузець?

— А дзе? Што ты пляцеш?—пачырванеу Пархвеп і скасіу галаву да плеча, за каупер.

— Во, во... Ну, ды й гладкая ж!

Новая прыгода паддала гульцом вясёласьці, бо накірувала іх думкі у другі бок ад азарту, троху зьменшыла палкую цікавасьць да картау.

— Во, во, бяры яе у палон,—памагалі хлопцы Пархвену.

Рогат і сьмех быу вялікі, але спагадны да Пархвена, ні злосны; бо усякі скалазуб мог спадзевацца тэй прычыны і с сабою.

Аж і Валента, пэуны у выйгрышу, заглядзіуся.

— Хадзі перша гэтою карцінай,—налегау тымчасам на Івана той, хто ні меу сваіх грошы і дзівіуся з-за плеча.

Іван прайшоу.

— Языкі у вас сьвербяць,—пабіу Валента і иаваліу:—ні гуляіш, дык ні лезь,—дадау ен, уцікаючы у карты і забываючы іншае.

— Так, так, так!—закрычэлі разам усе падказчыкі:—прыцісьні, Іванюха.—падпырхнулі яны; адзін жа схапіу яго за руку і палажыу на карты, каб было дзело сьвято.

Іван як бы й сам меуся, так выкінуць, адылі туга цяміу і здауся на іх волю; усе усьміхауся і цмокау языком па-дзяцінаму. А памагацік яго ні дрэмау: схапіу у Івана карціну-віcока замахнууся і з усей сілы хлеснуу ею па карціні Валенты.

— Што? Што так?—дзівавау, як бык, Валента.

— А то так! Чым ты пабіу? Табе трэба было кралю прайці і тузам адказаць, а так ты без козыра, а Іван каралем забрау.

Валента узьярыуся. Як мог ен так памыліцца? Храсьценны ніжнік з далікатнаю пагардаю пазірау міма Валенты з грудка картау.

— Чым жа ен пабіу? Разумны вы дужа,—пачау перакідаць карты Валента.

